3-10

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 10 (849) 5 САКАВІКА 2008 г.**

## *Са святам, беларусачкі!*




## 23 сакавіка - агульнанацыянальная дыктоўка

**Шаноўныя грамадзяне Беларусі!**
**Дарагія суайчыннікі ва ўсіх кутках свету!**
**Паважаныя прыхільнікі беларускай дзяржаўнасці і культуры!**

25 сакавіка спаўняецца 90 гадоў з моманту абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Урад БНР надаў беларускай мове дзяржаўны статус. Напрыканцы XX стагоддзя пад час дэмакратычнага развіцця Беларусі мова набывала моц, пашырылася кола яе прыхільнікаў. Але сёння стан мовы тытульнай нацыі гаротны.

Дзяржава і яе чыноўнікі цураюцца роднага слова. Мова выціскаецца з навучальных установаў. Яна амаль не гучыць у дзяржаўных СМІ. Зачыняюцца школы і класы з беларускамоўным навучаннем.

Родную мову шануюць і бароняць народы ўсіх краінаў і нават тыя, хто пазбаўлены сваёй дзяржаўнасці. 90-ыя ўгодкі БНР даюць нагоду заявіць на ўвесь свет, што беларуская мова жывая і мае шмат прыхільнікаў. На апошнім агульнанацыянальным перапісе 78 адсоткаў грамадзянаў заявілі, што іх родная мова - беларуская.

2008 год ААН, ЮНЭСКА вырашылі зрабіць годам моў. Мы - беларусы - хочам прадэманстраваць сусветнай супольнасці сваю любоў і пашану да роднай мовы. Мы заклікаем правесці агульнанародную дыктоўку і прыняць у ёй зацікаўлены ўдзел.

Мы звяртаемся да незалежных і дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі з просьбаю 23 сакавіка агучыць загадзя падрыхтаваны тэкст.

Дзеля супольнага правядзення дыктоўкі ў Менску заяўкі на залы падаюцца на Нацыянальную, Купалаўскую, Пушкінскую бібліятэкі, бібліятэку БДУ і Педуніверсітэта.

Тое ж самае мы прапануем зрабіць прыхільнікам роднай мовы ў сваіх рэгіёнах. Замаўляйце залы бібліятэк дзеля напісання дыктоўкі.

Напісаны вамі тэкст вы можаце пакласці ў свой сямейны архіў, захаваць для нашчадкаў, перадаць ім як унікальнае сведчанне вашай павагі да беларускай самабытнасці. Хто жадае ўзяць удзел у конкурсе на якасць валодання мовай, можа здаць тэкст у камісію па падвядзенні вынікаў. Пераможцы атрымаюць разнастайныя прызы. Пішыце разам сем'ямі і суполкамі!

Давайце зробім з гэтага ўрока беларускай мовы свята! Хай у месцах правядзення дыктоўкі гучыць музыка і спевы, чытаюцца вершы, распаўсюджваюцца беларускамоўныя выданні. Апранемся, як на вялікае свята ў нашым жыцці!

Пастарайцеся даслаць у аргкамітэт фотаздымкі таго, як вы пісалі дыктоўку. Вашыя шчырыя ўсмешкі, руплівасць вашых дзетак убачаць шмат беларусаў па ўсім свеце.

Давайце ўсе разам створым сусветную нядзельную беларускую школу!

Спадзяемся, што дыктоўка на роднай мове стане традыцыйнай. Але ў нашай агульнанацыянальнай школе будуць і іншыя адмысловыя ўрокі.

Асобна звяртаемся да лідараў грамадскай думкі, кіраўнікоў палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў. Ваш прыклад удзелу ў агульнай дэманстрацыі любові і пашаны да мовы будзе спрыяць яе абароне, сталенню і падвышэнню статусу ў грамадстве. Вас абіралі дэмакратычным шляхам у лідары, і вы адказныя за свае ўчынкі і перад тымі, хто вас абіраў, і перад продкамі, а таксама перад нашчадкамі.

Хай тэкст нашай дыктоўкі на роднай мове пра Незалежнасць прагучыць у мільёнах сэрцаў. Гэта будзе мацнейшай падтрымкай Мовы і Культуры, Незалежнасці і Суверэнітэту Беларусі!

**Сябры аргкамітэта па правядзенні першай агульнанацыянальнай дыктоўкі і ўтварэння Агульнанацыянальнай нядзельнай беларускай школы:**

*Ініцыятар правядзення Уладзімір Падгол;*
*Старшыня Менскай гарадской арганізацыі ГА "БНФ "Адраджэньне" Віктар Івашкевіч;*
*Кіраўнік ГА ЗБС "Бацькаўшчына" Аляксей Марачкін;*
*Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі;*
*Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў;*
*Старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Алесь Пашкевіч;*
*Старшыня ГА "Беларускі ПЭН-цэнтр" Уладзімір Някляеў;*
*Старшыня ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жана Літвіна.*

## МІХАСЮ ЧАРНЯЎСКАМУ - 70



**ЧАРНЯЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч (н. 7.3.1938, в. Круці Мядзельскага р-на) бел. археолаг, пісьменнік. Канд. гіст. н. (1971). Скончыў Менскі пед. ін-т (1960). З 1966 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі, у 1990—2001 заг. аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру плямён каменнага і бронзавага вякоў ПнЗ Беларусі, першабытнае мастацтва на Беларусі. Праводзіў раскопкі помнікаў фінальнага палеаліту, мезаліту і неаліту ў басейнах Нёмана і Віліі, першабытных стаянак Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне. Вывучаў крэменездабыўныя шахты каля г.п. Краснасельскі і в. Карпаўцы Ваўкавыскага р-на, шэраг помнікаў бронзавага веку Панямоння. Вылучыў нёманскую культуру, крывінскі варыянт нарвенскай культуры. Даследаваў сярэдневяковы г. Мядзел (1982), замак у Лоску Валожынскага р-на (1987, разам з З.С.Пазняком). Аўтар навуковых, навукова-папулярных і празаічных твораў. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), кнігі «Беларуская археалогія: Дасягненні археолагаў за гады Савецкай улады» (1987), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1. 1987), «Археалогіі Беларусі» (т. 1, 1997), «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000). Падрыхтаваў да публікацыі ўспаміны Ларысы Геніюш «Споведзь» (Маладосць. 1990. № 1—6).

У 2000-я гады Міхась Чарняўскі выдаў цэлы шэраг самых розных кніжак ("Як пошуг маланкі" - пра Расціслава Лапіцкага, "Дзесяць бітваў" - пра найбольш значныя бітвы беларускіх войскаў на працягу гісторыі).

На сёння Міхась Чарняўскі займаецца выкладчыцкай дзейнасцю - працуе ў БДУ, а таксама рыхтуе да друку новыя выданні па гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

## Лявону Баршчэўскаму - 50 гадоў



**Лявон БАРШЧЭЎСКІ** нарадзіўся 4 сакавіка 1958 г.) - беларускі філолаг, перакладчык, грамадскі дзеяч і палітык, старшыня Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне".

Лявон Баршчэўскі нарадзіўся ў Полацку. У 1975 г. паступіў у Менскі педагагічны інстытут замежных моваў на спецыяльнасць нямецкая і ангельская мовы. Працаваў выкладчыкам нямецкай і ангельскай моваў у роднай школе №10 Полацка, потым у Наваполацкім політэхнічным інстытуце.

У 1987 г. скончыў аспірантуру пры Менскім пед-інстытуце замежных моваў, атрымаў ступень кандыдата філалагічных навук.

У 1985 годзе Лявон Баршчэўскі разам з Сяргеем Шупам стварыў у Менску клуб маладых перакладчыкаў "Бабілён". Перакладаў Эсхіла, Петрарку, Кафку, Брэхта, Ленаў, Бёля. Перакладае са старажытнагрэцкай, лацінскай, нямецкай, ангельскай, французскай, польскай, іспанскай.

Паводле ўласнага прызнання, паэзію перакладаў больш як з трыццаці моваў, а прозу — больш як з дзесяці. Бегла размаўляе на сямі мовах.

Баршчэўскі – рэдактар серыі "Biblioteka biaioruska", якая пачала выходзіць у 2006 годзе ва Ўроцлаве ў Калегіюме Ўсходняй Еўропы. У серыі ўжо пабачылі свет кнігі: "Калі рукаюцца душы" Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна, дзвюхмоўная кніга Андрэя Хадановіча "Свята Новага году", кніга Ўладзіміра Арлова "Каханак Яе Вялікасці".

Лявон Баршчэўскі - заснавальнік і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя, які быў зачынены ўладамі ў 2003.

У 1990-1995 гг. Баршчэўскі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання, уваходзіў у склад парламенцкай апазіцыі БНФ. Быў сябрам камісіі ў пытаннях адукацыі, культуры і захавання гістарычнай спадчыны, а таксама сябрам камісіі ў міжнародных справах і замежнаэканамічнай дзейнасці.

З 1995 г. – намеснік старшыні Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", у 1996-1999 гг. – выконваў абавязкі старшыні партыі пасля эміграцыі Зянона Пазняка. Пасля 1999 г. стаў дарадцам старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі. На 10 з'ездзе Партыі БНФ у снежні 2007 г. Лявон Баршчэўскі абраны старшынём Партыі.

Лявон Баршчэўскі - сябар рэспубліканскай Рады ТБМ.

# Навуковы вычын Лявона Баршчэўскага




Лявон Баршчэўскі выдаў ва Ўроцлаве (Польшча) «Беларуска-лацінска-еўрапейскі слоўнік» (з беларускай на латынь і ўсе мовы Еўразвязу. усяго 28 моваў). Гэта — плён шматгадовага роздуму над праблемай: якім чынам магчыма наблізіць беларускую мову да патэнцыйных чытачоў тэкстаў на гэтай мове ў краінах Цэнтральнай, Заходняй і Паўднёвай Еўропы — з улікам амаль поўнай адсутнасці альбо недаступнасці беларуска-іншамоўных слоўнікаў. З'яўленне гэтай працы можа таксама разглядацца як своеасаблівы падарунак перадусім маладзейшаму пакаленню беларусаў, якія бачаць будучыню сваёй краіны сярод народаў аб'яднанай Еўропы.

Слоўнік прызначаны для чытання і разумення інфармацыйных, публіцыстычных, навукова-папулярных, мастацкіх тэкстаў, даступных у друкаваным выглядзе альбо ў Сеціве. Менавіта гэтым абумоўленая спецыфічная структура самога Слоўніка і яго паасобных артыкулаў. Патэнцыйны карыстальнік гэтай працы, валодаючы (альбо папярэдне авалодаўшы) беларускім алфавітам, можа паспяхова прачытаць і «расшыфраваць» асноўны змест інфармацыі, артыкула, пазнавальнай зацемкі ў газеце ці на інтэрнэтавай старонцы, спасцігнуць сутнасць творчае задумы публіцыста альбо літаратара. І — самае галоўнае — у працэсе гэтага засвоіць найважнейшыя законы функцыянавання, а таксама найважнейшыя словы і выразы сучаснай беларускай мовы. У сувязі з гэтым карыстальніку Слоўніка можа прыйсці на дапамогу веданне іншых еўрапейскіх моў.

Аўтару дапамагала група рэдактараў яго паасобных частак, без удзелу якіх праца. безумоўна. не магла б убачыць свет: Алесь Жлутка (лацінская мова), Сяргей Шупа (ірландская, літоўская, мальтыйская. харвацкая і эстонская мовы), Мікола Ермалаеў (венгерская мова), Якуб Лапатка (фінская мова), Васіль Сёмуха (латышская мова), Інэса Кур'ян (славенская мова), Сяргей Занкевіч (румынская мова), Мікола Бусел (навагрэцкая мова). Рыхтавалі Слоўнік да друку Калегіюм Усходняй Еўропы імя Яна Новака-Езяраньскага ва Уроцлаве (старшыня — Ян Анджэй Дамброўскі), выдавецтва «Радыёла-плюс» (дырэктар — Уладзімір Сіўчыкаў), мовазнавец, кандыдат філалагічных навук Юрась Бушлякоў, а таксама кніжны графік Міхал Анемпадыстаў.

Слоўнік складаецца з асобных частак, якія дапаўняюць і пашыраюць адна адну. Пры гэтым лексічныя адзінкі беларускай мовы падаюцца з найважнейшымі граматычнымі характарыстыкамі (адсылкамі да адпаведных граматычных табліц, пранумараваных з дапамогай рымскіх і арабскіх лічбаў, а таксама зорачак), з выкарыстаннем традыцыйнай лацінскай лінгвістычнай тэрміналогіі а таксама спецыяльных умоўных знакаў.

Лексічныя адзінкі Слоўніка размешчаныя паводле алфавіту. З улікам таго, што сучасная пісьмовая беларуская мова рэальна існуе ў двух варыянтах — афіцыйна-дзяржаўным і класічным (угрунтаваным на правапісе паводле «Беларускай граматыкі для школ» Браніслава Тарашкевіча: выд. 1-е—5-е, 1918-1943 гг.) — аўтар палічыў неабходным, наколькі гэта магчыма, адлюстраваць абодва варыянты правапісу. Пры гэтым алфавітны парадак адлюстроўвае размяшчэнне беларускіх слоў і выразаў паводле афіцыйна-дзяржаўнага правапісу (у версіі 1959 г. з наступнымі ўдакладненнямі).

У кожнай лексічнай адзінцы паказваецца яе нязменная частка — з дапамогай паўтлустага звычайнага шрыфту, а таксама зменная частка: патэнцыйна флектыўная (звычайны курсіў); галосныя і зычныя, што паддаюцца чаргаванню (падкрэсленыя), а таксама беглыя галосныя (паўтлусты курсіў). Варыянты чаргавання галосных і зычных падаюцца ў асобных табліцах.

Тлумачальна-перакладны раздзел слоўніка (LEXICON А-Я), у сваю чаргу, складаецца з некалькіх частак. У першай частцы (LEX-I) змешчаныя найчасцей ужываныя лексічныя адзінкі сучаснай беларускай мовы з паралельным іх перакладам на афіцыйныя мовы Еўрапейскага Саюза (з улікам кірункаў патэнцыйнай далейшай інтэграцыі). У межах слоўнікавых артыкулаў сінанімічныя і блізказначныя адзінкі аддзяляюцца адна ад адной коскай, а розныя значэнні адной беларускай лексемы — кропкай з коскаю. Выпадкі аманіміі пазначаюцца. як правіла, з дапамогай рымскіх лічбаў. Словы альбо часткі слова, змешчаныя ў круглых дужках, паказваюць на варыянтнасць перакладу той ці іншай лексемы.

Другая частка гэтага раздзела (LEX-II) уключае ў сябе пазнавальныя лексічныя адзінкі — інтэрнацыяналізмы. а таксама выклічнікі — якія супастаўляюцца ў сваіх значэннях з адпаведнікамі ў лаціне альбо найбольш распаўсюджаных у Еўропе сучасных мовах.

Невялікая трэцяя частка (LEX-III) уяўляе сабою кароткі слоўнік тэрмінаў, пераклад якіх на лаціну дазваляе адукаванаму еўрапейцу самастойна знайсці адпаведнікі таксама ў яго роднай мове.

У чацвёртай частцы (LEX-IУ) падаецца прыблізна сотня прымавак, прыказак і выслоўяў, што існуюць у беларускай мове дзякуючы шматгадоваму і плённаму ўплыву антычнай, а таксама хрысціянскай культуры на фармаванне культурнага коду беларускай нацыі.

Завяршаюць Слоўнік Дадатак і спіс найважнейшых бібліяграфічных крыніц.

Гэты Слоўнік па колькасці моваў варты Кнігі рэкордаў Гінеса. Да таго быў выдадзены слоўнік на 17 моваў.

Безумоўна, што гэтае выданне - сапраўдны навуковы вычын Лявона Баршчэўскага. Гэтае выданне будзе распаўсюджвацца толькі ў краінах Еўразвязу. Для Беларусі будзе ажыццёўлена другое выданне Слоўніка, які павінен з'явіцца ў беларускіх кнігарнях яшчэ сёлета.

*Наш кар.*

# СПРАВАЗДАЧА

## Асіповіцкай раённай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" за 2007 год

1. Сабралі і перадалі складкі за 2007 год.

2. Перадалі гарадскім бібліятэкам кнігі аўтараў В. Грыцук, В. Мудрова, М. Доўнара-Запольскага, Ш. Дэбаша і інш.

3. На тры месяцы падпісвалі газету "Наша слова" беларускай гімназіі горада.

4. Бралі ўдзел у святкаванні дня нараджэння А. Адамовіча ў в. Глуша (9 верасня).

5. Правялі сустрэчу з пісьменніцай Вольгай Іпатавай (21 лістапада).

*Т. Барэль.*






**На здымку:** на магіле Алеся Адамовіча.

# Справаздача

## Падсвільскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны

**Старшыні ГА ТБМ**
**імя Ф. Скарыны**
**Сп. Алегу Трусаву**

Паведамляю, што за мінулы 2007 год праведзена пяць паседжанняў рады і ўсёй суполкі ў сакавіку. траўні, жніўні, кастрычніку, лістападзе, дзе вырашаліся наступныя пытанні: агляд газеты "Наша слова", падпіска, правядзенне мерапрыемства да юбілеяў Купалы і Коласа, збор подпісаў за захаванне беларускамоўнай 3-яй Глыбоцкай СШ і зварот у вышэйшыя інстанцыі (адкуль атрымалі толькі паведамленні: пераадрысаваны – не больш) збор подпісаў за адкрыццё вуліц у Менску – Брыля і Сапегі, правядзенне вечарыны Глыбоцкага паэта і сябра ТБМ – Віталя Гарановіча з нагоды яго юбілею і прэзентацыі кнігі "Саракі".

На лістападаўскім паседжанні адбылася справаздача старшыні суполкі – Марыі Баравік. Аднагалосна яе пакінулі старшынёй і на наступны год, скарбнікам – Іну Данільчанка. Зацвердзілі спіс сяброў у складзе 10 чалавек. Выбыў Аляксандр Баран.

Складкі здадзены 15.12.07. г. За год ахвяраванні Мар'яна Місевіча склалі 100 тыс. і 10 тыс. – ахвяраванні Мікалая Савуліча.

Правялі запланаваныя мастацкія мерапрыемствы – гэта конкурс чатальнікаў "Даверся Слову" і вечарына "Саракі" Гарановіча", дуэт аўтара і кампазітара Панны Шаколы.

*Старшыня*
*Падсвільскай суполкі ТБМ*
*імя Ф. Скарыны*
*М. Баравік.*

# Конкурс чытальнікаў "Даверся Слову"

***Пра мову і не трэба мовы!***
***Пара на мове гаварыць!***

Пад такім дэвізам сябры Падсвільскай суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны зладзілі ў мясцовай школе свята роднай мовы – конкурс чытальнікаў пад назвай "Даверся Слову"

Вядовец Антон Марговіч звярнуўся да кожнага чытальніка:

***"Як пачнецца вершаў перамова,***
***Запалонь магічнай сілай Слова,***
***Каб заззялі думак дыяменты,***
***Так, каб зала трапіла ў сіло,***
***У бяссіллі звялі кампліменты –***
***Аб далонь іскрылася далонь!"***

Упачатку загучала Слова як сродак духоўнай сувязі часоў. Гэта вершы Купалы - "А хто там ідзе", "Грай, мая жалейка", "Курган", Коласа – "Родныя вобразы", Багдановіча – "Раманс".

Далей задума – паказаць магічную сілу Слова, яго магчымасці – ажыццявілася праз вершы Я. Янішчыц, В. Гарановіча. М. Багдановіча. М. Баравік. Р. Барадуліна. Я. Мальца і іншых паэтаў. Творы прагучалі з вуснаў школьнікаў (ад чацвёртага па дзесяты клас). настаўнікаў і бібліятэкараў.

Свята-конкурс выявіла надзвычай натуральнае вымаўленне слова. тонкую адчувальнасць яго. ў Веранікі Пліско, яна выйшла на першае месца. таксама ў Каці Дарожкінай і ў Каці Стараннік, якія раздзялілі другое месца, у Надзеі Аўласевіч, у Антона Гаўрыльчыка і Андрэя Смяхоўскага, у Алёны Шульгі.

І ўсе астатнія чытальнікі дачыніліся да зместу вершаў, і кожны паказаў сваё ўспрыманне твора праз індывідуальную інтанацыю голаса.

Шаснаццаці чытальнікам былі ўручаны дыпломы перамоджцаў конкурсу ў розных намінацыях. Самыя артыстычныя чытальнікі атрымалі дадатковыя прызы і жартоўныя мабільныя тэлефоны (печыва). Узнагароды падрыхтавала сябра суполкі ТБМ – Марыя Новікава, якая прыехала з Самахвалавічаў Менскага раёна на мерапрыемства, каб узначаліць журы і раздаць пахвалу ўдзельнікам радаснага конкурса.

Музычнае афармленне стварылі юная флейтыстка музычнай школы – Эма Ермаковіч і бард Антон Марговіч, таксама дзеці. сябры яго гуртка "Бардаўская песня". Пяцікласніцы Надзя Зайцава і Даша Кміта праспявалі дзве турыстычныя песні – Візбара "Мілая мая" і Міцяева "Як здорава" у перакладзе на беларускую мову Марыі Баравік.

Усяго ў творчай праграме прынялі ўдзел 23 чалавекі. У зале прысутнічала больш за пяць дзесяткаў чалавек-слухачоў. Былі вельмі радаснымі дзеці-удзельнікі і слухачы-настаўнікі, якія атрымалі эстэтычную асалоду.

*І. Данільчанка,*
*г.п. Падсвілле.*





## Гучыць роднае слова

Помніцца гадоў семвосем таму назад мы, сябры гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны і ў пісьмовай форме і тэлефанаваннем, прапаноўвалі тадышняму кіраўніцтву аўтапарка № 6 г. Наваполацка рабіць абвесткі прыпынкаў ў гарадскіх аўтобусах па-беларуску. Але ні "добра", ні "не" мы так і не пачулі, хаця і абяцалі сваю дапамогу ў перакладзе патрэбных матэрыялаў.

І вось новы 2008 год прыемна ўразіў не толькі нас, але і шматлікіх навапалачан і гасцей горада. Напярэдадні Міжнароднага дня абароны роднай мовы, што адзначаўся 21 лютага, у наваполацкіх гарадскіх аўтобусах загучала родная слова. У новых "МАЗах назвы прыпынкаў абвяшчаюцца на добрай, мілагучнай беларускай мове. А на бягучым радку паведамленні "бягуць" таксама нашымі словамі. Аб'явы аб прыбыцці і пасадцы на міжнародныя аўтобусы на аўтастанцыі таксама абвяшчаюцца на прыемнай нам мове. І становіцца добра на душы, нават у пахмурнае надвор'е. Пасажыры з замілаваннем прыслухоўваюцца да родных слоў і на іх вуснах з'яўляецца прыязная ўсмешка. Ужо не раз даводзілася чуць: "А малайцы, аўтобуснікі. Добра, што нагадваюць нам, што мы - беларусы". Вырашылі даведацца ў намесніка дырэктара ААТ АТП-6 Аляксандра Букантнева, з чыёй падачы здзейснілася такая прыемная падзея. Аляксандр Мікалаевіч адказаў што гэта уласная ініцыятыва калектыву пасажырскай калоны. А каб агучыць задуму – з гумарам гаворыць Букантнеў, як цяпер модна казаць, правялі сярод нашых супрацоўніц "касцінг". Лепшай стала дыспетчар Галіна Зурко. Гэта яе голас пры абвяшчэнні прыпынкаў гучыць у салонах аўтобусаў. А на прыканцы нашай гутаркі Аляксандр Мікалаевіч паабяцаў што да канца года колькасць беларускамоўных аўтобусаў павялічыцца на шматкроць адначасова з папаўненнем калоны новымі аўтобусамі. Нажаль, на дажываючых свой век "Ікарусах" падобнае здзейсніць немагчыма

Нам давялося пачуць і такое меркаванне, што наш новы мэр, Наталля Каганава, прыйшоўшая да нас са старажытнага суседа г. Полацка, дзе і назвы вуліц месцамі ўжо напісаны па-беларуску, і ставяць помнікі нашым славутым землякам, прынесла у Наваполацк гэтую жыватворную плынь.

Дай ёй Бог, і нашым аўтобуснікам ў купе, плёну ў высакароднай справе. Тут нельга не ўзгадаць дырэктара "Дома гандлю" Валянціну Фадзееўну Іванову і яе паплечнікаў. У гэтым гандлёвым цэнтры ўжо многія годы рэклама, абвесткі і інш. пішаццца на нашай роднай беларусай мове.

*Алесь Рымша,*
*Алег Рудзенак,*
*Юрась Касцюк -*
*сябры гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Абласная Алімпіяда

Ужо стала добрай традыцыяй праводзіць у Гародні на Каляды абласную алімпіяду па беларускай мове і літаратуры ў Гарадзенскім прафесійна-тэхнічным каледжы прыборабудавання (былое ПТВ-141).У абласной алімпіядзе прынялі ўдзел 69 вучняў, з іх 22 удзельнікі сельскіх школ і 47 удзельнікаў гарадскіх школ. У нядзелю 6 студзеня падводзіліся вынікі. Аргкамітэт алімпіяды ўзначальвала метадыст УА "Гродзенскі ДАІПК і ПКР і СА"-Бубешка М. Г. Журы ўзначальваў доктар філалагічных навук ГрДзУ Даніловіч М.А. Абласную раду ТБМ імя Ф Скарыны прадстаўлялі старшыня рады Місцюкевіч А.І. і намеснікі старшыні Буднік І.Ф. і Крой А.І. Старшыня аргкамітэта Бубешка М.Г. сказаўшы добрыя словы ўсім удзельнікам алімпіяды пажадала гарадзенцам поспехаў у падрыхтоўцы да рэспубліканскай алімпіяды, а таксама прапанавала правесці вучэбна-трэніровачныя зборы ў лютым-сакавіку 2008 года каб сфармаваць моцную каманду для ўдзелу ў рэспубліканскай алімпіядзе. Пасля прамовы Бубешка М.Г.разам са старшым выкладчыкам ГрДзУ Тарасавай С.М. і старшынёй абласной арганізацыі ТБМ імя Ф Скарыны Місцюкевічам А.І. узнагародзіла пераможцаў алімпіяды флэшкамі і беларускімі кнігамі. Дыпломы і граматы ўпраўлення адукацыі ўручаны:

**І ступені:**

**Каровушкінай** Ганне Уладзіміраўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 2 г.п. Рось Ваўкавыскага раёна (наст. Сідаркевіч Т.У.)

**Сілюк** Вераніцы Алегаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) ВПК "Юрацішкаўскі дзіцячы садсярэдняя школа Іўеўскага раёна (наст. Дуніч Г.П., Сілюк Н.У.)

**Качалка** Вользе Чаславаўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) гімназіі № 1 г. Ліды (наст. Бобніс Т.А.)

**Гуліч** Кацярыне Аляксееўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 33 г. Гародні (наст. Панасевіч А.З., Капыцкая С.В.)

**Рамейка** Вользе Раманаўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 16 г. Ліды (наст. Пільчук Т.К.)

**ІІ ступені:**

**Урбановіч** Вераніцы Барысаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) Мінойтаўскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы Лідскага раёна (наст. Енка Г.Ч.)

**Русаку** Сяргею Іванавічу, вучню 10 класа (12-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 13 г. Гародні (наст. Івашкевіч Ж.А.)

**Хохлач** Марыне Тадэвушаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) гімназіі № 1 г. Дзятлава (наст. Радзіеўская Т.М.)

**Петрулевіч** Марыне Янаўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) Вялікaберастaвіцкай СШ Бераставіцкага раёна (наст. Талочка А.А.)

**Вішнеўскай** Марыі Віктараўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 7 г. Ваўкавыска (наст. Заморская Я.І.)

**Балышу** Арцёму Валер'евічу, вучню 10 класа (11-гадовага навучання УА "Сярэдняя школа № 5 г. Смаргоні" (наст. Трайковіч В.К.)

**Багатка** Анастасіі Віктараўне, вучаніцы 11 класа гімназіі № 1 г. Ліды (наст. Велькашынская Г.А.)

**Шульга** Тацццяне Георгіеўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй школы № 32 г. Гародні (наст. Бушэйка З.А.)

**Валчок** Алёне Сяргееўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй школы № 7 г. Гародні (наст. Кісялёва Г.В.)

**ІІІ ступені:**

- **Сарай** Кацярыне Уладзіміраўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) УА "Гімназія № 1 імя К. Каліноўскага г. Свіслач" (наст. Семянёка І.Я.)
- **Арцюх** Анастасіі Барысаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) УА "Дзяржаўная гімназія № 1 г.п. Карэлічы" (наст. Гурык Н.І.)
- **Серада** Вользе Дзмітрыеўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) ДзУА "Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 3 г.п. Зэльва" (наст. Камякевіч Л.І.)
- **Зянкевіч** Кацярыне Вячаславаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) УА "Сярэдняя школа № 6 г. Смаргоні" (наст. Мінкевіч Т. А.)
- **Бойша** Вользе Віктараўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) сярэдняй школы-ліцэя № 1 г. Гародні (наст. Салаўёва Ж.У.)
- **Данілевіч** Аляксандры Станіславаўне, вучаніцы 9 класа УА "Агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 5 г. Масты" (наст. Грудская Н.І.)
- **Луцык** Алесі Аляксандраўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) Казлоўшчынскай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна (наст. Лішык В.М.)
- **Беляковай** Анастасіі Валер'еўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) гімназіі № 2 г. Гародні (наст. Садаўнічая В.С.)
- **Мельчанка** Наталлі Анатольеўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з музычна-харавым ухілам № 3 імя В.М.Усава г. Гародні (наст. Лапацей В.І.)
- **Арцімовіч** Кацярыне Вячаславаўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) УА "Агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 5 г. Масты" (наст. Галонская Т.І.)
- **Кельнік** Наталлі Андрэеўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) Пагранічнай гімназіі Бераставіцкага раёна (наст. Астроўская А.І.)
- **Русялевічу** Яўгену Станіслававічу, вучню 10 класа (11-гадовага навучання) Радунскай агульнаадукацыйнай гімназіі Воранаўскага раёна (наст. Удаева І.В.)
- **Ракевіч** Ірыне Уладзіміраўне, вучаніцы 11 класа УА "Дзяржаўная агульнаадукацыйная школа № 4 г. Слоніма імя П.І.Батава (наст. Барысевіч І.Г.)
- **Руль** Яўгеніі Артураўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй школы №7 г. Навагрудка (наст. Савасцюк В.В.)
- **Шыян** Святлане Уладзіміраўне, вучаніцы 11 класа ДзУА "Гімназія № 1 імя акадэміка Я.Ф. Карскага г. Гародні" (наст. Макей Я.І.)
- **Толмач** Юліі Віктараўне, вучаніцы 11 класа УА "Дзяржаўная гімназія № 1 г.п.Карэлічы" (наст. Карп Т.І)
- **Буйвідовіч** Юліі Аляксандраўне, вучаніцы 11 класа Міхалішскай сярэдняй школы Астравецкага раёна (наст. Ярмак Н.В.)

За паспяховае выступленне ў асобных турах алімпіяды па беларускай мове і літаратуры ўручаны граматы ўпраўлення адукацыі:

- **Малецкай** Святлане Мікалаеўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) Алекшыцкай СШ Бераставіцкага раёна за лінгвістычны конкурс (наст. Барысенка А.А.)
- **Блашко** Марыі Сяргееўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) Верцялішкаўскай СШ Гарадзенскага раёна за напісанне водгуку (наст. Белякова А.М.)
- **Міневіч** Наталлі Васільеўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) УА "Дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 8 з музычна-харавым ухілам г. Слоніма" за лінгвістычны конкурс (наст. Якімец І.У.)
- **Антончык** Марыі Валянцінаўне, вучаніцы 10 класа (12-гадовага навучання) Навадворскай СШ Шчучынскага раёна за лінгвістычны конкурс (наст. Папко Г.А.)
- **Івановай** Вользе Аляксандраўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 7 г. Ваўкавыска за лінгвістычны конкурс (наст. Заморская Я.І)
- **Варонка** Кацярыне Анатольеўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) Наваельнянскай СШ Дзятлаўскага раёна за напісанне водгуку (наст. Радзівон Л.В.)
- **Семянюк** Дзіяне Анатольеўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) УА "Дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 10 г. Слоніма" за лінгвістычны конкурс (наст. Мазур Т.М.)
- **Грушэўскай** Алене Сцяпанаўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) ДзУА "Гімназія № 1 імя акадэміка Я.Ф. Карскага г. Гародні" за напісанне водгуку (наст. Нарута С.В.)
- **Рыхліцкай** Анжаліцы Валер'еўне, вучаніцы 10 класа (11-гадовага навучання) сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 35 г. Гародні за напісанне водгуку (наст. Пачабыт І.І.)
- **Кузьміцкай** Святлане Яўгеньеўне, вучаніцы 11 класа Воўпаўскай СШ Ваўкавыскага раёна за вуснае выказванне (наст. Калоша Ю.М.)
- **Сакалоўскай** Таццяне Аляксандраўне, вучаніцы 11 класа ДзУА "Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 2 г.п. Зэльва" за вуснае выказванне (наст. Ступчык Н.Ф.)
- **Гродзель** Юліі Валянцінаўне, вучаніцы 11 класа УА "Сярэдняя школа № 5 г. Смаргоні" за лінгвістычны конкурс (наст. Трайновіч В.К.)
- **Кавяза** Алене Валер'еўне, вучаніцы 11 класа УА "Гімназія № 4 г.Смаргоні" за лінгвістычны конкурс (наст. Рудая Г.Я.)
- Марозік Алене Іванаўне, вучаніцы 11 класа сярэдняй школы-ліцэя № 1 г. Гародні за вуснае выказванне (наст. Прахаровіч Л.К.)

Было таксама прапанавана начальнікам упраўленняў (аддзелаў) адукацыі ўзнагародзіць настаўнікаў, якія падрыхтавалі пераможцаў алімпіяды і аб'явіць падзяку членам аргкамітэта і журы:

- **Бубешцы М.Г.** - метадысту УА "Гродзенскі ДАІПК і ПКР і СА" - старшыня аргкамітэта;
- **Носка А.І.** - дырэктару Гродзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Дзямідзік І.Я.** - намесніку дырэктара Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Корань С.І.** - намесніку дырэктара Гродзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Несцер В.П.** - выкладчыку Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Снацкай І.І.** - выкладчыку Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Арэхва В.М.** - выкладчыку эканомікі Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Крук .Т.У.** - выкладчыку матэматыкі Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Белавусаву В.У.** - выкладчыку спецпрадметаў Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;
- **Барташэвіч Г.Г.** - майстру вытворчага навучання Гарадзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання;

**Капыцкай Т.В.** - майстру вытворчага навучання Гродзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа прыборабудавання.

**Даніловічу М.А.** - доктару філалагічных навук ГрДзУ, старшыня журы;

**Руцкай А.В.** - дацэнту ГрДзУ, намеснік старшыні;

**Піваварчык І.В.** –дацэнту ГрДзУ;

**Якалцэвіч М.А.** - кандыдату філалагічных навук ГрДзУ;

**Тарасавай С.М.** - ст. выкладчыку ГрДзУ;

**Грынько М.У.** - ст. выкладчыку ГрДзУ;

**Ярмусік В.М.** - настаўніцы СШ № 31;

**Міхно Н.Ф.** - настаўніцы гімназіі № 2;

**Мазырка СВ.** - настаўніцы СШ № 28;

**Чарняк А.М.** - настаўніцы СШ № 10;

**Коўшык І.І.** - настаўніцы СШ № 26;

**Барцэвіч А.З.** - настаўніцы СШ № 23;

**Даўлюд І.М.** - настаўніцы гімназіі № 1;

**Шышовай А.К.** - настаўніцы СШ № 32;

**Тарарака Р.І.** - настаўніцы СШ № 9;

**Сцепанчук Г.Ф.** - настаўніцы СШ № 28;

**Урублеўскай Э.У.** - настаўніцы Верцялішкаўскай СШ Гарадзенскага раёна;

**Грыгаровіч С.М.** - настаўніцы гімназіі № 4;

**Сушко Н.Я.** - настаўніцы Сапоцкінскай СШ Гарадзенскага раёна.

Пасля ўзяў слова старшы выкладчык ГрДзУ Грынько М.У. Ён засяродзіў увагу прысутных на моцным духу спаборніцтва і быў гэтым прыемна ўражаны. Напрыканцы свайго выступу ён пажадаў усім здароўя, поспехаў і каб удзельнікі алімпіяды надалей жылі духам беларушчыны.

Місцюкевіч А.І.-павіншаваўшы пераможцаў, пажадаў гарадзенцам заняць у рэспубліканскай алімпіядзе 1-ае месца і высока несці званне беларуса.

Дацэнт універсітэта, намеснік старшыні журы Руцкая А.В. параўнала хуткасць алімпіяды з бліскавіцай і выказала ўпэўненасць, што камісія ў сваім выбары не памылілася, бо пераможцы паказалі высокі ўзровень ведаў.

Рамейка Вольга, вучаніца 11 класа СШ №16 г. Ліды (трэці раз удзельнік абласной алімпіяды) ад імя ўдзельнікаў падзякавала ўсім за арганізацыю алімпіяды, за спрыяльныя ўмовы пражывання ў інтэрнаце і добрыя адносіны.

Настаўніца Сідаркевіч Т.Ў. адчула ў дні алімпіяды шчырасць, павагу, чалавечую дабрыню і была расчулена да слёз.Ў канцы яна ўзгадала словы Пімена Панчанкі: "Без чалавечнасці - не будзе вечнасці"

Адзінае чаго на маю думку ў гэтай спрыяльнай атмасферы можна было б яшчэ паслухаць, дык гэта трохі беларускай музыкі і паэзіі. На ранейшых алімпіядах так і было. ТБМ мог бы тут дапамагчы. Добрым словам трэба ўзгадаць дырэктара каледжа Носка А.І. і яго намеснікаў-Дзямідзік І.Я. і Корань С.І., якія таксама спрыялі пад час алімпіяды атмасферы шчырасці і цеплыні.

Апошняе слова ўзяла старшыня аргкамітэта Бубешка М.Г: "Няхай наша цеплыня перадаецца вашым калегам."

*Алесь Крой,*
*намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Ф Скарыны.*

## АЛЯКСАНДРУ ЖАЛКОЎСКАМУ - 75



**ЖАЛКОЎСКІ Аляксандр Васільевіч** нарадзіўся 1.03.1933 г. у в. Сасновы Бор Шчучынскага раёна. Працаваў адказным сакратаром Васілішкаўскай раённай газеты (1950 г.), рэдактарам Воранаўскай (1961-1962 г.) і Мастоўскай (1965-1969 гг.) раённых газет. У Лідзе з 1962 г. Быў рэдактарам Лідскай газеты "Уперад" у 1969-89 гг. Наступныя гады працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Гродзенская праўда". Лаўрэат прэмій творчых конкурсаў, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР і ганаровым знакам "2000 год Хрысціянству". Сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ з дня заснавання. Аўтар шматлікіх артыкулаў публіцыстычнага і краязнаўчага характару, у тым ліку сталы карэспандэнт газеты "Наша слова". Адзін з стваральнікаў лідскай кнігі "Памяці".

Сябры Лідскай гарадской і Лідскай раённай арганізацый ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны шчыра віншуюць Аляксандра Васільевіча Жалкоўскага з 75-годдзем і зычаць яму з такім жа імпэтам служыць Беларусі далей, як ён рабіў тое дагэтуль.

**Сто гадоў, Аляксандр Васільевіч!**

## *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў сакавіку*

Шаргаева Святлана Міхайл.
Мерцалава Надзея Фёдар.
Кунцэвіч Уладзімір
Рымша Ангеліна
Мельнікава Святлана
Рымашэўскі Віталь Анатол.
Кулішча Эдуард Францавіч
Занкевіч Сяргей Міхайлавіч
Другакова Марына Уладзім.
Зянькевіч Барыс Барысавіч
Каваль Ірына Віктараўна
Азарчык Раман Уладзіміравіч
Кечанкоў Мікалай Мікал.
Мамонька Алена
Бандарэнка Юлія Дзмітр.
Пухоўскі Аляксандр Цітавіч
Вячорка Францішак Валянц.
Бахцізіна Кацярына Георг.
Макакеў Аляксандр Віктар.
Узлоўскі Валянцін
Міхнавец Дзіна Мікалаеўна
Карпіцкі Максім Юр'евіч
Цыркуноў Аляксандр Іванав.
Дабратвор Ілля Мікалаевіч
Гардзенка Віталь Андрэевіч
Карась Ганна Аляксандраўна
Гуркоў Канстанцін Уладзімір.
Марачкін Аляксей Антонавіч
Суравіцкі Віталь Анатольев.
Васільчанка Мікола Рыгор.
Яноўская Марыя
Сідаровіч Ала Рамуальдаўна
Лісоўскі Тарас Станіслававіч
Малахава Людміла Віктар.
Бутылін Міхась Уладзімір.
Санько Зміцер Хведаравіч
Лісоўскі Станіслаў Аляксанд.
Шарах Генадзь Мікалаевіч
Леўшукоў Андрэй
Сінькевіч Сяргей Алегавіч
Сідарэвіч Святлана Рыгор.
Рамашкевіч Ірына Георгіеўна
Лукашук Марыя Пракопаўна
Макар Юры Уладзіміравіч
Табушава Ірма Алегаўна
Міхалькевіч Уладзіслаў Генр.
Міхалькевіч Віталь Генрых.
Шагулін Алег Іванавіч
Бараноўскі Сяргей
Курбацкі Аляксандр Міхайл.
Паўлавец Зміцер
Бубула Вольга
Клімавец Яўгенія Антонаўна
Гук Ганна Іванаўна
Трашчанка Уладзімір Яўхім.
Мазанік Аляксадр Віктаравіч
Зінавенка Сяргей Леанідавіч
Чэчат Сяргей Аляксандравіч
Баршчэўскі Лявон Пятровіч
Дзіцэвіч Рычард Мікалаевіч
Барэль Таццяна Уладзімір.
Мінава Вера
Стэпусь Васіль
Дарашкоў Сяргей
Мельнікава Анжэла
Лапіцкі Аляксей Іванавіч
Дрык Людміла
Райчонак Алег Георгіевіч
Шэметава Алеся Аляксандр.
Страха Соф'я Валянцінаўна
Каліновік Вольга Фёдараўна
Ліцьвінчук Наталля
Астаповіч Галіна Канстанцін.
Жалкоўскі Аляксандр
Войшніс Фаіна Сцяпанаўна
Якубоўская Таццяна
Сухарава Любоў Васільеўна
Бермант Раіса Барысаўна
Несмяянава Людміла Даніл.
Шарэйка Вольга.
Шарэйка Вольга №5387
Вашкевіч Ігар Пятровіч
Бажыцка Алег Аляксандравіч
Пералайка Мікалай Уладзім.
Бяляева Наталля Уладзімір.
Дэц Алена Георгіеўна
Лапенка Аляксей Купрыян.
Козел Ларыса Міхайлаўна
Севастьянава Ганна Сярг.
Герасімовіч Валянцін Іванавіч
Філіпаў Мікалай Альбертавіч
Баўсюк Мікола
Смаль Вячаслаў Мікалаевіч
Ішчанка Галіна Мікалаеўна
Уазіз Амін
Конічава Галіна
Латушка Ірына
Казлова Аляксандра Віктар.
Праконіна Вера Уладзімір.
Чашчына Наталля Мікал.
Стаціўка Мікалай
Булак Аляксандр
Белякоў Аляксандр
Шадыра Вадзім
Крук Ларыса Васільеўна
Богдан Вадзім
Аскерка Анатоль
Лысюк Станіслаў Сцяпанавіч
Майсяёнак Алена
Тамулёнак Мікалай Іванавіч
Кірылаў Герман Іларыёнавіч
Савіцкі Максім
Турок Марыя Аляксандр.
Бойка Сяргей Васільевіч
Арочка Ларыса Іванаўна
Яўдошына Ларыса Іванаўна
Сянкевіч Васіль Іванавіч
Рулевіч Алена Валер'янаўна
Шахоўская Святлана Уладз.
Якубук Наталля Раманаўна
Малашанка Зміцер Васільевіч
Мухіна Надзея Аляксандр.
Рабчынская Лідзія Алякс.
Стахоўскі Станіслаў Аляксан.
Ніякі Ніяк
Місевіч Мар'ян
Бабpоўская Людміла
Корань Вольга
Марус Алена
Носава Галіна
Іванова Бярнарда Пятроўна
Цурпанава Ірына
Ліннік Мікалай Міхайлавіч
Мяцюн Таццяна Мар'янаўна
Панкевіч Аляксандр
Трайнель Віктар
Лукашэвіч Аляксей Пятровіч
Сідарэнка Сяргей Уладзімір.
Стаўбун Ірына Іванаўна
Бабко Таццяна
Камінскі Сяргей Сяргеевіч
Шышук Андрэй Іванавіч
Дзмітруковіч Вольга Фёдар.
Паўлюковіч Ніна
Дыдышка Ніна
Янчанка Алена Рыгоаўна
Луханіна Алена Альбінаўна
Згірскі Міхаіл Францавіч
Гарэлікава Ларыса Эдуард.
Падгайскі Мікалай Вячаслав.
Дайлідка Юры
Федаровіч Валерый Васіл.
Саўчанка Марыя Уладзімір.
Анацка Ганна
Вянгура Ніна Фёдараўна
Сцямпкоўскі Сяргей
Петрашэвіч Надзея Анатол.
Цвяткова (Русак) Надзея Ів.
Аўсяннікава Тамара Алякс.
Саракавік Анатоль Вячаслав.
Кадушка Вера Уладзіміраўна
Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч
Пацюпа Юры
Трацяк І.І.
Барадзіч Ганна Сцяпанаўна
Крол Цімур Аляксандравіч
Здзітавец Алена Уладзімір.
Хабян Вольга
Дапкюнас Жанна Казіміраўна
Раманоўская Яніна
Адаміна Алена
Харашылава Тамара Пятр.
Дубіцкі Уладзімір Пятровіч
Капковіч Вольга
Андрэас Анатоль
Толсцік Вольга
Чарняўская Святлана
Кухаронак Валянціна Іван.
Гаркавая Людміла
Сушко Вера Іванаўна
Кашкур Іосіф Станіслававіч
Рамашэўская Людміла Алякс.
Красніцкі Віктар Яўгенавіч
Макарэвіч Сяргей Іосіфавіч
Карабач Марыя
Каралёва Таццяна Іванаўна
Пазняк Марыя
Кавальчук Дзмітрый Леанід.
Кіслая Вольга Юр'еўна
Сырыца Віктар Антонавіч
Антонава Алена Аляксеўна
Салдаценка Ігар Пятровіч
Чаляпін Аляксей

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Трампчынскі ні словам не адклікаўся, паседжанне пачалося з "касы хворых". Мне гэта вельмі добра нагадала ход спраў у Дзяржаўнай Думе, калі ўвесь народ з дрыготкай чакаў першай рэакцыі сабраных пасля гэтулькіх гадоў маўчання і нядолі прадстаўнікоў народа. Перш за ўсё, занесеным у парадак дня, было "абсталяванне пральні пры ўніверсітэце" (sic). Паўтараю, спосабы кіравання застаюцца заўсёды аднолькавымі, так, мусіць, ёсць з часоў Макіявелі.

Украінская перамога была першым самастойным пасоўваннем без аглядкі на Еўропу, што стаяла на сусветнай шахматнай дошцы, але далейшы лёс Украіны, дамова з заўсёды падступнымі рускімі з Пятлюрай на чале - усё гэтае справы вельмі сумніўнай арыентацыі і рэальнай карысці. У любым выпадку, гэта было пасоўванне ў бок палітычнай думкі князя Януша Радзівіла і Б. Кутылоўскага. Падчас майго знаходжання ў Варшаве прайшло паседжанне кіравання Польска-беларускага саюза.

Паколькі ў розных зваротах беларусы стала гаварылі аб суверэннай Беларусі, я звярнуў увагу збору на той факт. што Беларусь ні аднаго гроша на гэтую мэту не дала, ні аднаго салдата на фронт не адправіла, то абсурдам будзе думаць, што Польшча за іх усе каштаны выцягне з агню. Калі, ахвяруючы сваім жыццём і маёмасцю, беларусы дойдуць да этнаграфічных меж Беларусі з усходу, тады жыццё паставіць іх перад дылемай: жадаеце належаць нам або Расіі? Таму варта зрачыся ад самастойнасці, імкнуцца да саюза з Польшчай на падставе выключнай аўтаноміі, якую, у залежнасці ад умоў існавання, можна будзе павузіць або пашырыць паводле гістарычных акалічнасцяў.

Прытрымваючыся, такім чынам, асноўнага прынцыпу непадзельнасці Беларусі, якая ніколі не можа пагадзіцца быць аб'ектам гандлю або дамовы паміж Польшчай і бальшавікамі, варта выдаць адпаведную дэкларацыю і прадставіць яе ў заканадаўчыя органы польскага ўраду. Прысутныя прызналі правільнасць гэтых аргументаў. Прэзідыюм атрымаў заданне адрэдагаваць гэтую заяву, што і было выканана. Вярнуўшыся дадому, я прачытаў яго ў газетах, прычым прынцып незалежнасці Беларусі быў падкрэслены, але аб суверэннасці замоўчвалася.

**24 траўня 1920 г.**, другі дзень Сёмухі. У нас сабраліся многія суседзі. Прыйшла трывожная вестка аб прарыве фронту бальшавікамі недалёка ад Ігуменя і Барысава. Раніцай 25 траўня я паехаў у Нясвіж па запрашэнні прыняць удзел у абрадзе пахавання ў падзямеллі Фарнага касцёла парэшткаў першага ардыната Давыд-Гарадка, князя Станіслава Радзівіла, ротмістра 3-га ўланскага палка і бліжэйшага ад'ютанта Кіраўніка дзяржавы. Князь Станіслаў быў салдатам незвычайнай мужнасці.

Я чуў з аповядаў уланаў, што з боем трэба было ўзяць непрыступную пазіцыю, і ў шэрагах пачалася паніка; князь Станіслаў, адкінуўшы зброю, са шпіцрутэнам у руцэ кінуўся наперад, павёў за сабой сваіх салдат і ўзяў вышыню. А зараз, быўшы асабістым ад'ютантам Пілсудскага, мог бы не прымаць удзелу ў дзеяннях на фронце, аднак настаяў на сваім, каб яму даверылі атрад кавалерыі, камандуючы якім пад Малінам, каля Кіева (Жытомірская вобл.), быў цяжка паранены і пакінуты ў сялянскай хаце, акружанай потым пераважнымі сіламі бальшавікоў. Гаспадар хаты раскрыў таямніцу, якога госця ён хавае, і князя дабілі багнетамі і прыкладамі. Яго кум, князь Еранім Радзівіл, жанаты на князёўне з Жыўца які ў свой час лічыўся верагодным будучым каралём Польшчы, паехаў на Ўкраіну і знайшоў цела.

Афіцыйныя пахаванні, у цырымоніі якіх прымаў удзел Пілсудскі, прайшлі ў касцёле Святога крыжа ў Варшаве, а потым парэшткі былі перавезеныя ў Нясвіж. Ля дамавіны ў Варшаве былі князі Лявон, Еранім і Януш (сын Караля) Радзівілы. Маркотным было гэтае пахаванне, таму што горад не прыняў у ім патрэбнага ўдзелу, як гэта належала зрабіць для сына нясвіжскай зямлі і аднаго з найадважных афіцэраў польскага войска. Тлумачылі гэта асцярогай таго, каб ва ўмовах наступу бальшавікоў, іх удзельнікі не былі палічаныя агентамі. Аднак хачу адзначыць, што пры пануючым дэмагагічным настроі не жадалі падкрэсліваць заслугі абшарніка, а да ўсяго яшчэ і князя, што з'яўляецца больш верагодным.

**26 траўня 1920 г.** Паколькі па прычыне трывожных вестак з Усходняга фронту вялікія сілы войска перакідваліся на ўсход, і рух цягнікоў для прыватных асоб быў прыпынены, я змушаны быў адправіцца на конях па Слуцкім гасцінцы праз Старыцы ў Менск на паседжанне Сельскагаспадарчага таварыства і іншыя паседжанні. Па дарозе я сустрэў табуны завадовага быдла, якія гналі з-пад Ігуменя з сядзіб. занятых бальшавікамі, і доўгія табары вазоў уцякачоў, якія накіроўваюцца ў супрацьлеглы бок. чым пару гадоў таму назад. г. зн. з Усходу на Захад. Твары кіроцаў конямі безнадзейныя і перапужаныя. а ля дарогі натоўпы мужыкоў, якія радзіліся. што ім рабіць у дадзеным выпадку. але з адзінай упэўненасцю, што ім ні ў якім разе нічога дрэннага не пагражае. Ніколі яшчэ з часоў "Патопу" не было так дакладна выказванне Ў. Полі: "што мала, то і цэла". Кружылі і некалькі перабольшаныя весткі аб дымных папялішчах сядзіб і фальваркаў, аб пагромах і знішчэнні польскага насельніцтва ў вёсках і маёнтках. У Менску ўсеагульны перапалох: я знайшоў сястру Кастравіцкую, якая цудам выратавалася ад бальшавіцкай няволі і зараз збірала сваю рухомую маёмасць, каб адправіць яе ў Бярэсце, да пляменніка Бельскага з Ацечы. Уначы было разаслана распараджэнне галоўнакамандуючага Менска генерала Шаптыцкага, каб сем'і службоўцаў і працаўнікоў розных грамадскіх арганізацый эвакуяваліся на захад, для чаго дадзеныя вагоны і г. д. Праз горад днём і ўначы перасоўваліся розныя роды войска, якія накіроўваюцца з падмогай да Бярэзіны. Усім падабалася вялікапольская артылерыя, запрэжаная выдатнымі конямі і моцнымі муламі. Але ніхто не чакаў, што гэта пачатак канца.

Другі дзень майго знаходжання быў трохі спакайнейшы ў выніку весткі аб правале бальшавіцкага наступу каля Ігуменя і Барысава. Абозам уцякачоў было загадана аб'язджаць Менск, каб яго жыхары не падалі духам, затое горшыя весткі ішлі з-пад Лепеля, адкуль бальшавіцкае нашэсце прарвалася ўжо амаль на 150 вёрст на захад, і ішлі крывавыя баі ў раёне Маладзечна, Глыбокага, Будслава і Плешчаніц, якія вырашалі лёс усёй беларускай кампаніі і лёс гэтай краіны. Дзеянні гэтыя павінны быць падтрыманыя Літоўскай тарыбай для таго. каб адрэзаць Вільню ў якасці кампенсацыі за Кіеў.

Усюды адчувалася нямецкае рука: на збітых самалётах знаходзілі нямецкіх пілотаў, у бальшавіцкіх шэрагах - нямецкіх інструктараў, а на чале Чырвонай Арміі стаў царскі генерал Брусілаў. Паколькі на гэты час былі прызначаныя паседжанні Сельскагаспадарчага таварыства, Сіндыката, Саюза абшарнікаў і Ўзаемнага страхавання. а правядзенне працы сярод абхопленых панікай і не ўпэўненых у заўтрашнім дні людзей было немагчымым, я вырашыў звярнуцца да першакрыніцы, каб замест плётак словамі аўтарытэтаў уздзейнічаць на сабраных. Як я ўжо ўспамінаў, галоўнакамандуючым быў Шаптыцкі. які жыў у асобным доме на вуліцы Падгорнай. Дом добра ахоўваўся, таму што бальшавікі, у якіх усюды былі свае агенты. спрабавалі яго знішчыць і адзін раз нават учынілі пажар у доме, каб з аэраплана, арыентуючыся на полымя. можна было скінуць на гэты дом бомбу. Пажар быў патушаны. бомба скінутая. але не патрапіла ў цэль.

*(Працяг у наст. нум.)*



№ 10 (849) 5 САКАВІКА 2008 г. наша слова

*Анатоль Грыцкевіч*

# Сын гетмана

## (Да 400-годдзя з дня смерці Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага)

**ПАХОДЖАННЕ. САЦЫЯЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ.**

Адным са знаных дзяржаўных дзеячаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай быў князь Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч Астрожскі, сын гетмана найвышэйшага Беларуска-Літоўскай дзяржавы Канстанціна Іванавіча Астрожскага (1460-1530) і яго другой жонкі князёўны Слуцкай Аляксандры Сямёнаўны (памерла пасля 1555 г.), з роду нашчадкаў Альгерда – Алелькавічаў. Маці атрымала ў пасаг маёнткі на Беларусі, а таксама ўнесла мужу вялікую суму грошай. Паколькі і бацька, і маці былі праваслаўнымі, то і сын Канстанцін быў ахрышчаны і гадаваўся ў праваслаўным асяроддзі. У Беларуска-Літоўскай дзяржаве і па традыцыі пазней некаторыя праваслаўныя вернікі мелі два імені. Так, вядомы кіраўнік Украінскай Казацкай дзяржавы Багдан Хмяльніцкі быў ахрышчаны як Зіновій, але пасля цяжкай хваробы бацькі далі яму яшчэ і імя Багдан. Так і малодшы сын гетмана Канстанціна Астрожскага меў яшчэ імя Васіль, але звычайна ўжывалася імя Канстанцін.

Сам гетман Канстанцін Іванавіч Астрожскі другі раз (пасля смерці першай жонкі, князёўны Тацццяны Сямёнаўны Гальшанскай (памерла у ліпені 1522 г.) ажаніўся ў 63-гадовым узросце ў 1523 г. з сястрой слуцкага князя Юрыя Сямёнавіча Алелькавіча, які ўваходзіў у палітычную групоўку, што ўзначальваў сам гетман. Пры заключэнні шлюбу Канстанцін Іванавіч Астрожскі даў ліст сваякам Аляксандры Слуцкай, у якім абавязваўся даць жонцы лена (пажыццёвае права валодання пэўнымі маёнткамі) на трэць усіх сваіх маёнткаў. Такая ўмова была звычайнай пры заключэнні шлюбу, бо нявеста была маладая, і трэба было яе забяспечыць на выпадак смерці мужа. Пражыў стары гетман з другой жонкай сем гадоў. Ад гэтага шлюбу нарадзіўся Канстанцін (Васіль) і дачка Соф'я, якая памерла ў дзяцінстве.

Нарадзіўся Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі ў 1527 г. і пражыў для таго часу доўгае жыццё – 81 год. Канстанцін Астрожскі нарадзіўся і правёў сваё дзяцінства ў Тураве, які быў запісаны яго маці. Там і выхоўваўся. Атрымаў, як належала сыну магната, добрую адукацыю, а паколькі Тураў быў асяродкам старадаўняй праваслаўнай епархіі, то і духоўны ўплыў уладыкі і святароў быў на яго вялікім, хаця гадаваўся Канстанцін Астрожскі як будучы вайсковы камандзір.

Дзякуючы свайму багаццю – Канстанцін Астрожскі атрымаў палову маёнткаў бацькі (другую палову атрымаў сын гетмана ад першага шлюбу Ілля), малады магнат заняў пачэснае месца ў дзяржаўнай іерархіі. Амаль усе буйныя маёнткі, якія атрымаў Канстанцін Астрожскі, знаходзіліся на Валыні, сярод іх гарады-цвердзі Дубна, Канстанцінаў, Астрог, Роўна і іншыя. Латыфундыя К. Астрожскага займала амаль палову тэрыторыі Валынскага ваяводства. На Беларусі Канстанцін (Васіль) Астрожскі валодаў маёнткамі з цэнтрамі ў Тураве, Дзятлаве і іншых мясцінах. Асноўныя маёнткі брата Іллі знаходзіліся ў Падоллі.

**ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ**

Даволі рана, у 23-гадовым узросце Канстанцін Астрожскі заняў дзяржаўныя пасады. Вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі. Жыгімонт Аўгуст у 1550 г. надаў яму пасады старасты ўладзімірскага і маршалка Валынскай зямлі, а ў 1559 г. Канстанцін Астрожскі атрымаў пасаду Кіеўскага ваяводы, якую займаў маль пяцьдзесят гадоў.

Ён увайшоў у Раду Беларуска-Літоўскай дзяржавы, а пасля ўтварэння аб'яднанай Рэчы Паспалітай – у сенат.

Канстанціну Астрожскаму належала 25 гарадоў, 10 мястэчак і 670 вёсак. У той час яны давалі штогод прыбытку 1200 тысяч злотых. Такое багацце ўмацоўвала яго палітычнае становішча ў дзяржаве. Для кіравання сваёй латыфундыяй К. Астрожскі меў распарадчы апарат, які нагадваў дзяржаўны, а таксама двор, які можна было параўноўваць з каралеўскім. Ён меў і сваё ўласнае войска ў некалькі соцень чалавек, галоўным чынам з казакоў. Але гэтае войска знаходзілася ў залогах некалькіх цвердзяў.

У 1553 г. Канстанцін (Васіль) Астрожскі парадніўся з польскім магнацкім родам Тарноўскіх. Ён узяў у жонкі каталічку Соф'ю Тарноўскую (памерла ў 1570 г.) дачку Яна Тарноўскага (1488-1561), кашталяна кракаўскага і гетмана вялікага каронната, польскага графа Свяшчэннай Рымскай імперыі, вядомага палкаводца і ўплывовага польскага магната. Дарэчы, такія "мяшаныя" шлюбы былі частымі, сярод арыстакратыі.

Атрымаўшы пасаг жонкі, К. Астрожскі павялічыў свае ўладанні. Пасля смерці цесця, Канстанцін Астрожскі стаўся паўнапраўным уладальнікам замка і горада Тарнуў (на поўдні Польшчы) з 31 вёскай, а таксама атрымаў пажыццёва маёнткі ў землях Перамышльскай, Львоўскай і Галіцкай, у тым ліку горад Тарнопаль (цяпер Цернопаль) і маёнткі ў Чэхіі. Моц і палітычны ўплыў Канстанціна Астрожскага значна павялічыліся. Ён увайшоў у супольную з польскімі магнатамі групоўку Тарноўскіх яшчэ да Люблінскай уніі 1569 года, як і ў свой час яго бацька гетман Канстанцін Астрожскі ўваходзіў у групоўку беларускіх магнатаў, прыхільнікаў Саюзу з Польшчай.



*Марка, выпушчаная ў памяць пра К. Астрожскага.*

**ПАД ЧАС ЗАКЛЮЧЭННЯ ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ**

1560 г. Кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі з некалькімі магнатамі з Валынскай зямлі ўсяляк адцягваў пытанне аб дзяржаўнай уніі Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Аднак настойлівасць караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста і польскіх дэпутатаў, а таксама рашучасць большасці валынскай украінскай шляхты (якая хацела атрымаць такія ж вялікія правы, як і польская шляхта) прымусілі К. Астрожскага і іншых магнатаў урэшце згадзіцца на унію. Пры гэтым валынская шляхта на соймiках і польская шляхта разам з каралём пайшлі на яшчэ больш радыкальны крок. 26 красавіка 1569 г. Жыгімонт Аўгуст падпісаў акт аб далучэнні Валынскай зямлі да Польшчы, а Люблінскі сойм зацвердзіў гэтае далучэнне праз месяц. Магнатам і шляхце ўдалося ўнесці ў акт аб далучэнні ўмову, што ўсе пасады могуць займаць толькі ўраджэнцы гэтай зямлі, ды захаваць акты у Валынскай зямлі на былой (цяпер ужо для гэтай тэрыторыі) дзяржаўнай мове – беларускай.

Як уладальнік сваёй латыфундыі на Валыні і кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі займаўся не толькі агульнадзяржаўнымі справамі Польскага каралеўства (а як сенатар – і ўсёй Рэчы Паспалітай), але і адміністрацыйнымі справамі на Украіне і гаспадарчымі ў сваіх маёнтках. Камандаваў ён войскамі падчас ваенных канфліктаў з Маскоўскай дзяржавай і з крымскімі татарамі і Турцыяй. Падчас Лівонскай вайны Канстанцін Астрожскі ў 1577 г. адбіў напад крымскіх татараў на Валынь, а ў лютым 1578 г. вытрымаў іх аблогу ў сваёй цвердзі Астрог. Крымскія татары ў гэты час выступалі як саюзнікі цара Івана Жахлівага і рабілі пастаянныя напады на ўкраінскія землі. Паколькі вайсковай сілы ў К. Астрожскага было недастаткова, то ён мусіў, каб выратаваць Кіеў і свае маёнткі ад нападаў, даць вялікі грашовы выкуп крымскаму хану.

Падчас полацкай кампаніі 1578 г., каб адцягнуць частку маскоўскага войска ад Полацка і дапамагчы каралю Стэфану Баторыю вызваліць Полацк ад расійскай акупацыі (што і было зроблена ў 1578 г.), Канстанцін Астрожскі разам са сваім сынам Янушам (1554-1620). сабраўшы 2 тысячы войска злучыўся са старастам чаркаскім Князем Міхаілам Вішнявецкім, і яны разам рушылі ў паход на Северскую зямлю, якая ў той час належала Маскоўскаму царству. Падчас гэтага паходу войска К. Астрожскага спаліла горад Чарнігаў (праўда, замка не ўзяла), а асобныя загоны К. Астрожскага даходзілі да Старадуба і Почапа. У наступныя гады Лівонскай вайны войска Канстанціна Астрожскага бараніла паўднёвыя межы Рэчы Паспалітай.

Акрамя гэтых вайскова-палітычных спраў, меў Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі і вялікія клопаты з-за антаганізму, які пачаўся ў канцы XVI ст., паміж шляхтай і казакамі. Першае казацкае паўстанне 1591-1593 гг. на Украіне, якім кіраваў казацкі гетман Крыштаф Касінскі (па паходжанні беларускі шляхціц), як раз было накіравана супраць Астрожскіх - і бацькі, Канстанціна, і сына Януша Астрожскага, ваяводы валынскага і старасты белацаркоўскага. З гэтым казацкім паўстаннем удалося пакончыць аб'яднаным сілам Канстанціна і Януша Астрожскіх, Януша Вішнявецкага і іншых магнатаў толькі ў лютым 1593 г., калі казацкае войска было разбіта.

Падчас казацкага паўстання пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі (былога сотніка ў войску К. Астрожскага), у 1595-1596 гг. Канстанцін Астрожскі дзейнічаў асцярожна, бо значная частка яго прыватнага войска складалася з казакоў, якія маглі перайсці на бок паўстанцаў (але не перайшлі менавіта з-за гэтай асцярожнай яго палітыкі). Аднак ў апошняй фазе паўстання К. Астрожскі падтрымліваў камандуючага каронным войскам гетмана польскага і кашталяна львоўскага Станіслава Жулкеўскага, які і разграміў паўстанцаў у 1596 г. Панаванне магнатаў і шляхты на Украіне было гарантавана.

У справе Ілжэдзмітрыя І Канстанцін Астрожскі займаў адмоўную пазіцыю ў адносінах да падтрымкі самазванца магнатамі. У 1604 г. К. Астрожскі асуджаў пазіцыю сандамірскага ваяводы Ежы Мнішака, які падтрымаў Ілжэдзмітрыя І.

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ**

Вялікую ролю адыграў Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі ў падтрымцы праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай і культуры ўкраінцаў і беларусаў. Ён лічыў, што дзеля гэтай справы неабходна распаўсюджанне асветы, перш за ўсё сярод праваслаўнага духавенства. Ён падтрымліваў царкву на ўсіх сваіх маёнтках. Трэба таксама адзначыць, што паводле тагачаснага права кожны пан, а тым болей магнат, лічыўся заступнікам (патронам) усіх цэркваў розных канфесій у сваіх маёнтках. Але ўсе свае сілы ён аддаваў праваслаўнай царкве. Глыбока рэлігійны чалавек, Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі ў першыя дні вялікага посту зачыняўся ў Дубненскім манастыры і апранўшыся ў простае адзенне, дні і ночы праводзіў у малітвах.

Канстанцін Астрожскі падтрымліваў праваслаўныя брацтвы ў Львове і Вільні. У 1572 г. ён заснаваў школу ў Тураве, у 1577 г. - ва Уладзіміры-Валынскім, каля 1576 г. - у Астрогу, якая стала самай важнай у яго асветніцкай палітыцы, бо ён надаў ёй ранг акадэміі (Грэка-славяна-лацінская калегія). Сярод прадметаў, што выкладаліся ў Астрогу былі славянская, грэцкая і лацінская мовы, дыялектыка, граматыка, логіка, рыторыка, арыфметыка і інш. Першым рэктарам Астрожскай акадэміі быў знаны асветніцкі дзеяч Герасім Смятрыцкі, бацька царкоўнага дзеяча Максіма (Мялеція) Смятрыцкага. Пасля яго рэктарам Астрожскай школы быў грэк Кірыл Лукарыс. Школа дзейнічала да 1636 г.

Пры Астрожскай школе дзейнічала Астрожская друкарня і навукова-літаратурны гурток. Удзельнікі гуртка выдавалі навучальныя дапаможнікі, помнікі грэкавізантыйскай пісьмовасці, палемічныя творы. Досвед Астрожскай акадэміі потым скарысталі брацкія школы у Львове, Вільні, Кіеве, Берасці і інш. гарадах. Астрожская школа прычынілася да пашырэння асветы сярод насельніцтва, яна была асветніцкім асяродкам антыкаталіцкага кірунку.

Астрожская друкарня была адчынена каля 1578 г. на сродкі князя Канстанціна Астрожскага. Заснавальнікам яе быў запрошаны магнатам у Астрог Іван Фёдараў, які працаваў тут да 1582 г. у гэты першы перыяд дзейнасці друкарні тут выйшлі "Азбука", (1578г.), "Псалтыр і Новы Запавет" і алфавітны паказальнік да яго "Кнігазбор рэчаў самых патрэбных" (1580), а таксама поўная славянская кірылічная Біблія. Пасля ад'езду І. Фёдарава з Астрога Астрожская друкарня дзейнічала да 1612 г. Было выпушчана каля 25 кніг.

Канстанцін Астрожскі таксама прычыніўся да адкрыцця друкарняў у Троіцкім Дэрманскім і Кіева-Пячэрскім манастырах, дзе друкаваліся багаслужэбныя і палемічныя кнігі, накіраваныя супраць каталіцтва.

**БАРАЦЬБА ЗА ПРАВАСЛАЎНУЮ ЦАРКВУ**

Але больш за ўсё Канстанцін Астрожскі вядомы у гісторыі сваім змаганнем за Праваслаўную царкву і супраць царкоўнай уніі з Каталіцкім касцёлам. У той час, калі магнаты ў большасці пераходзілі з праваслаўя ў каталіцтва ці ў рэфармацыю, Канстанцін Астрожскі, як раней і яго бацька, гетман Канстанцін Астрожскі, узначальваў праваслаўную шляхту і мяшчан, адстойваў Праваслаўную царкву. Першы выступ супраць плану царкоўнай уніі, выказаны ў прадмове да трактату тэолага, езуіта Пятра Скаргі "Аб адзінстве Касцёла", К. Астрожскі даручыў дасведчанаму арыяніну Матавіле. Аднак той у сваёй кніжцы, адказваючы Скаргу, правёў некаторыя пратэстанцкія ідэі. Калі К. Астрожскі паслаў кніжку ў Ковель да аднаго з ведучых абаронцаў Праваслаўнай царквы князя Андрэя Міхайлавіча Курбскага, той у 1578 г. з абурэннем адказаў К. Астрожскаму: "Навошта Ваша міласць прыслаў мне, праваслаўнаму хрысціяніну, кніжку, напісаную чортавым памётам, яўным ворагам нашага Хрыста". Гэты адказ прымусіў К. Астрожскага запрасіць у Астрог найбольш адукаваных праваслаўных людзей і выдаваць кнігі сваімі сіламі.





Антыўніяцкія погляды Канстанціна Астрожскага выразна праявіліся непасрэдна перад заключэннем Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. Значэнне антыўніяцкай палітыкі К. Астрожскага было вялікім у гэтым рэлігійным пытанні, бо па сваім багацці і зямельных уладаннях, ён, сенатар у Рэчы Паспалітай, меў вялікі аўтарытэт сярод праваслаўнага насельніцтва. З ім лічыліся і каталіцкія магнаты. і кароль Жыгімонт III Ваза. і папская курыя, абменьваліся з ім лістамі, спадзеючыся знайсці з ім паразуменне.

Пры гэтым улічвалася і сямейнае становішча Канстанціна Астрожскага (памерлая яго жонка з польскага магнацкага роду Тарноўскіх была каталічка). Два яго старэйшыя сыны ад шлюбу з Соф'яй Тарноўскай – Януш 1554-1620 і Канстанцын (памёр у 1588 г.) былі католікамі і толькі малодшы, Аляксандр (1570-1603), застаўся праваслаўным. Улічвалася, што частка маёнткаў самога Канстанціна Астрожскага была ў Польшчы. і ён уваходзіў у асяроддзе польскіх магнатаў.

Сам К. К. Астрожскі спачатку таксама быў прыхільнікам царкоўнай уніі, як і значная частка праваслаўнай царкоўнай іерархіі. Тлумачыцца гэта тым, што Праваслаўная царква ў Рэчы Паспалітай знаходзілася ў канцы ХУІ ст. у крызісе. Шмат вернікаў. асабліва са шляхты ды і гараджанаў перайшло ў пратэстанцкія плыні хрысціянства.

У самой царкве з'явіліся моцныя ўніяцкія тэндэнцыі. На гэта паўплывала некалькі фактараў. Епіскапы памеснай Праваслаўнай царквы на чале з мітрапалітам жадалі стаць незалежнымі ад Канстанцінопальскага патрыярха, які ў значнай ступені залежаў ад турэцкага султана. Не жадала кіраўніцтва Праваслаўнай царквы на Украіне і Беларусі падпарадкоўвацца патрыярху Маскоўскаму і ўсея Русі. які ў 1589 г. быў уведзены ў гэты сан з сану мітрапаліта. і сам ужо больш не падпарадкоўваўся ўсяленскаму Канстанцінопальскаму патрыярху. Праваслаўная царква ў Расіі мела намер пашырыць свой уплыў на землі Украіны і Беларусі і аблегчыць цару заваяванне і далучэнне іх да Расійскага царства. Пэўную ролю адыграла незадаволе-насць прыездамі і паборамі прадстаўнікоў Праваслаўнай царквы з Канстанцінопаля і іншых гарадоў Турэцкай імперыі, ды і іх умяшальнцтвам ва ўнутраныя справы кіеўскай мітраполіі (з рэзідэнцыяй мітрапаліта ў Вільні). Заключэнне царкоўнай уніі з Каталіцкім касцёлам было спробай процідзейнічаць імкненням рускага цара захапіць Беларусь і Украіну, а таксама захаваць недатыкальнасць уладанняў і маёнткаў Праваслаўнай царквы, бо такую недатыкальнасць гарантаваў кароль Жыгімонт III. Праваслаўныя іерархі разлічвалі таксама атрымаць месцы ў сенаце Рэчы Паспалітай нароўні з каталіцкімі біскупамі і тым самым падвысіць ролю і значэнне царквы ў грамадстве. Улічваўся і досвед Фларэнтыйскай царкоўнай уніі 1439 г. якая ў свой час была фармальна пашырана і на Беларусь і Украіну. але тут не замацавалася. Усё гэта павінна было пераадолець крызіс Праваслаўнай царквы.

Са свайго боку, Рымска-Каталіцкі касцёл і кароль польскі (і Вялікі князь літоўскі) Жыгімонт III бачылі ў уніі магчымасць для ідэйнага адзінства духавенства і феадалаў Беларусі і Украіны пры правядзенні ўнутранай і знешняй палітыкі кіраўнічых колаў Рэчы Паспалітай, а таксама сродак для сумеснай барацьбы супраць Рэфармацыі.

Пасля ўтварэння ў 1589 г. Маскоўскай патрыярхіі і яе адкрытых выступаў, накіраваных па падпарадкаванне ім Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай з ініцыятывай аб заключэнні царкоўнай уніі ў красавіку 1590 г. выступілі чатыры праваслаўныя епіскапы – пінскі Лявон Пяльчыцкі, луцкі Кірыл Тарлецкі, холмскі Дзяніс Збруйскі і львоўскі Гедэон Балабан. Апошні, праўда, пазней адступіў ад ідзеі уніі. У чэрвені 1590 г. яны абвясцілі свой праект на сінодзе ў Берасці. Мітарпаліт Міхал Рагоза (дарэчы. стаўленнік К. Астрожскага) паставіўся да праекту насцярожана, але пасля згадзіўся паставіць пад ім і свой подпіс. Праект быў аформлены як "Ліст Жыгімонту III Вазу". Епіскапы прасілі караля паспрыяць аб'яднанню Цэркваў.

Свой праект аб'яднання (уніі) прапанаваў і князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. 21 чэрвеня 1593 г. ён накіраваў, "ліст да М. Рагозы", апублікаваны потым у "Антыкрызісе" (1600). У сваім лісце да мітрапаліта К. Астрожскі назваў становішча ў Праваслаўнай царкве на Беларусі і Украіне крытычным. Пасля захопу туркамі Канстанцінопаля Праваслаўная царква апынулася на мяжы знікнення. Да гэтага, пісаў князь, у значнай ступені прычыніліся адсутнасць сапраўднай навукі, абвастрэнне супярэчнасцяў сярод вернікаў, а таксама абыякавасць да сваіх абавязкаў духоўных настаўнікаў.

К. Астрожскі прапанаваў сабраць царкоўны сабор, каб аб'яднаць Цэрквы на наступных умовах: 1.Усходняя царква ў Рэчы Паспалітай павінна захаваць свае ранейшыя абрады; 2. Каталікам забараняецца дамагацца храмаў і зямельных уладанняў, што належаць вернікам усходняга абраду; 3. Каталікам забараняецца схіляць да сваёй канфесіі праваслаўных; 4. Святары ўсходняга абраду павінны мець роўныя правы з ксяндзамі, а мітарпаліт і шэраг епіскапаў павінны атрымаць месца ў сенаце Рэчы Паспалітай; 5. Прыняцце звароту да ўсіх памесных цэркваў, каб яны разам з Праваслаўнай царквой Рэчы Паспалітай схіліліся да уніі, а дзеля гэтага паслаць адмысловыя пасольствы ў Маскоўскую дзяржаву і Валахію; 6. Зрабіць некаторыя папраўкі ў абрадах Усходняй царквы: 7. Больш увагі надаць пашырэнню школаў і ўдасканаліць навучальныя праграмы і падрыхтоўку святароў. К. Астрожскі прапанаваў абядначца не толькі з католікамі, але і пратэстантамі. Аднак праект К. Астрожскага быў адхілены іерархіяй Праваслаўнай царквы, і пакрыўджаны князь адышоў ад уніяцкай справы. Гэты яго настрой быў яшчэ больш падмацаваны лістамі да яго епіскапа Берасцейскага І. Пацея 25 і 16 чэрвеня 1595 г., у якіх І. Пацей рашуча выступіў супраць аб'яднання праваслаўных з рэфарматамі і заклікаў К. Астрожскага не верыць рэфарматам. І. Пацей прапаноўваў не агульную унію, а толькі унію Праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай з Рымска-Каталіцкім касцёлам. І. Пацей свае погляды выказаў у працы "Унія Грэкаў з Касцёлам Рымскім " (1595 г.). Яго падтрымаў кароль польскі і Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Ваза.

Справа уніі Цэркваў рухалася далей. У Торчыне (недалёка ад Луцка) сабраўся сінод Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай і 2 снежня 1594 г. прыняў дэкрэт аб аб'яднанні з Каталіцкім касцёлам. Дэкрэт не падпісаў толькі епіскап Перамышльскі М. Капысценскі. Для канчатковага вырашэння пытання аб царкоўнай уніі 11 чэрвеня 1595 г. у Берасці зноў сабраўся сінод. Былі прыняты "Артыкулы да аб'яднання з Касцёлам" дзе былі дэталёва разгледжаны ўмовы царкоўнай уніі.

Супраць уніі выступілі ўрэшце і два яе ініцыятары – епіскапы львоўскі, галіцкі і камянец – падольскі Г. Балабан і перамышльскі і самборскі М. Капысценскі. Супраць уніі выступаў не толькі К. Астрожскі, але таксама і частка праваслаўнай шляхты, духавенства і гараджан.

У лістападзе 1595 г. – лютым 1596 г. патрыяршы экзарх і епіскап Луцкі і Астрожскі К. Цярлецкі і епіскап Уладзімірскі і Берасцейскі І. Пацей знаходзіліся ў Рыме, дзе ўмовы царкоўнай уніі былі зацверджаныя рымскім папам Клімантам УІІІ.

Але працягваў яшчэ хістка адносіцца да заключэння уніі сам мітарпаліт Міхаіл Рагоза, а апазіцыя уніі гуртавалася вакол князя Канстанціна Астрожскага. Урэшце на заключэнне уніі пагадзіўся і мітарпаліт Міхаіл Рагоза, нягледзячы на пратэст на паседжанні сойма Канстанціна Астрожскага і ваяводы наваградскага Фёдара Тышкевіча-Скуміна, прызначыў скліканне царкоўнага сабору на 6 (16) кастрычніка 1596 г. Кароль Жыгімонт III падтрымаў скліканне сабору для заключэння уніі.

Як кіраўнік дзяржавы кароль Жыгімонт Ваза выдаў 14 чэрвеня 1596 г. маніфест да праваслаўнага духавенста і народу. у якім паведамляў, што згодна з яго зычэнем мітрапаліт Міхаіл Рагоза склікае царкоўны сабор для ратыфікацыі уніі, ужо заключанай у Рыме. Кароль Жыгімонт таксама паведамляў, што ў саборы могуць удзельнічаць толькі епіскапы, духаветства і свецкія вернікі, але забаронена ўдзельнічаць чужаземцам (духавенству з Турэцкай імперыі), "людзям іншай веры" (пратэстантам).




*Плакат, выпушчаны да 400-годдзя памяці Канстанціна Астрожскага*

**БЕРАСЦЕЙСКІ САБОР І ДАЛЕЙШАЕ ЗМАГАННЕ.**

Берасцейскі царкоўны сабор 1596 г. адбываўся з 6 па 10 кастрычніка паводле старога календара, які ўжываўся ў Праваслаўнай царкве, у адрозненне ад каталіцкага ды і дзяржаўнага календара. Па новым стылі гэта ў ХУІ ст. адпавядала дням ад 16 да 20 кастрычніка.

Нягледзячы на забарону караля, Канстанцін Астрожскі прывёз на сабор прадстаўніка канстанцінопальскага патрыярха грэка Нікіфара і прадстаўніка Александрыйскага патрыярха Кірыла Лукарыса. Ад канстанцінопальскага патрыярха прысутнічалі яшчэ мітрапаліт Веліградскі Лука і архімандрыт Макар з манастыра на гары Афон.

Князь Канстанцін Астрожскі прыехаў на сабор разам з малодшым сынам Аляксандрам, ваяводам Валынскім (адзіным з сыноў, хто застаўся праваслаўным) і з вялікай світай.

Царкоўны сабор у Берасці адразу падзяліўся на два саборы – уніяцкі і праваслаўны. У берасцейскай царкве Святога Мікалая 9 (19) кастрычніка ўрачыста была абвешчана царкоўная унія. Усе вернікі Праваслаўнай царквы ў Польшчы і на Літве (перш за ўсе мелася на ўвазе Беларусь) заклікаліся да прыняцця уніі. У гэтым урачыстым акце прызнавалася ўлада рымскага папы. У выніку Кіеўская мітараполія адмаўлялася ад падпарадкавання патрыярху Канстанцінопальскаму. Захоўвалася арганізацыйна-тэрытарыяльная структура царвы, яе епархіі на чале з мітарапалітам Кіеўскім (з рэзідэнцыяй у Вільні). Мова багаслужэння заставалася царкоўнаславянская, замененая паступова пазней на беларускую на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (на Украіне на украінскую). Абрады засталіся ранейшыя, як і царкоўнае адзенне. Застаўся дазвол і на шлюб духавенства.

Дзейснымі засталіся і ранейшыя прывілеі Праваслаўнай царквы. У саборы ўдзельнічалі мітрапаліт, 5 епіскапаў, 3 архімандрыты і ніжэйшае духавенства, свецкія людзі.

Уніяцкі сабор праводзіў свае паседжанні да 10 кастрычніка 1596 г. быў прыняты пастырскі ліст пра Берасцейскую унію і пра адхіленне ад сану епіскапаў Балабана і Капысценскага і іншых святароў, якія не прынялі унію.

Аднак зацверджанне уніі было кампрамісным, на падставе ўзаемных уступак. Цяпер царква, якая атрымала назву Уніяцкай, або Грэка-Каталіцкай, прызнавала галоўны дагмат Каталіцкага касцёлу-зыходжанне Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына, а з часам і іншыя дагматы.

Праваслаўны сабор засядаў асобна, у доме Райскага. У ім удзельнічалі два епіскапы-Балабан з Львова і Капысценскі – з Перашышля (раней абодва ініцыятыры уніі), 16 пратапопаў, 9 архімандрытаў і 12 ігуменаў, а таксама прадстаўнікі царкоўных брацтваў (Віленскага і Львоўскага), некалькі епіскапаў з Рускай Праваслаўнай царквы і 2 прадстаўнікі патрыярхаў з Турэцкай імперыі. Аднаго з іх – Нікіфара - сойм 1597 г. прызнаў турэцкім шпіёнам. На гэтым саборы галоўную ролю адыгрываў князь Кансцанцін Астрожскі, які вёў вострую палеміку з прадстаўнікамі караля. 9 (19) кастрычніка 1596 г. праваслаўны сабор прыняў пратэст супраць уніі, наклаў анафему на (цяпер ужо) уніяцкіх епіскапаў і заклікаў праваслаўных вернікаў не падпарадкоўвацца ім. Праціўнікі уніі таксама сімвалічна пазбавілі сану ўніяцкага мітрапаліта і епіскапаў.

(Заканчэнне на ст. 8.)

*Анатоль Грыцкевіч*

# Сын гетмана

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 6-7.)*

Так адбыўся раскол Праваслаўнай царквы ў Беларусі і Украіне. Заключным актам гэтага расколу стаўся універсал караля Жыгімонта III да народу ад 15 снежня 1596 г., якім кароль як кіраўнік дзяржавы прызнаў Беласцейскую царкоўную унію. Аднак ва ўніверсале нічога не гаварылася пра ўваходжанне мітрапаліта і епіскапаў у склад сенату Рэчы Паспалітай, у які яны так і не трапілі. Жыгімонт III пры такім расколе Царквы не хацеў выклікаць масавых пратэстаў супраць увядзення уніяцкіх епіскапаў у сенат з боку праваслаўнай, пратэстанцкай і той часткі каталіцкай шляхты, якая выступала супраць палітычнай улады духавенства. таму, не гледзячы на націск папаў рымскіх, ён не ставіў пытанне на разгляд соймаў. Сойм 1597 г. зацвердзіў Берасцейскую унію. У выніку зацверджання Берасцейскай царкоўнай уніі на чвэрць стагоддзя (да ўзнаўлення Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі ў 1620 г.) праваслаўная царква ў Рэчы Паспалітай страціла сваю легальнасць.

Таму Канстанцін Астрожскі працягваў сваю барацьбу за праваслаўе. Справа ўскладнілася тым што канстанцінопальскі патрыярх Іярэмія II, праціўнік уніі, ужо памёр.

Другі праціўнік уніі, Александрыйскі патрыярх Мелецій Пігас, быў прызначаны ў 1597 г. адміністратарам Канстанцінопольскага патрыярхату і зацвердзіў рашэнні сабору ў Берасці, але больш нічым дапамагчы не мог.

Аднак Александрыйскі патрыярх Мелецій Пігас (як адміністратар Канстанцінапальскага патрыярхату) пацвердзіў кіраўнічую ролю Канстанціна Астрожскага ў барацьбе за праваслаўе. Патрыярх 4 жніўня 1597 г. накіраваў ліст да епіскапа Гедэона Балабана і ўсяго праваслаўнага духавенства Украіны і Беларусі, прызначаючы сваімі экзархамі, акрамя К. Лукарыса, Г. Балабана і Канстанціна Астрожскага, свецкую асобу. Ім было даручана аднавіць іерархію Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, фактычна ліквідаваную ў выніку Берасцейскай уніі. У гэты ж час Канстанцін Астрожскі ахвяраваў грошы на выданне рэлігійнай літаратуры ў абарону праваслаўя. Пры гэтым ён выкарыстоўваў і друкарні пратэстантаў.

Па ініцыятыве Канстанціна Астрождскага на павятовых сойміках і на соймах Рэчы Паспалітай праваслаўная шляхта выступала разам з пратэстанцкай супраць наступу каталіцтва. У сваёй антыўніяцкай палеміцы К. Астрожскі зыходзіў з пастулату, што рашэнне Варшаўскай канфедерацыі 1573 г. аб рэлігійнай верацярпімасці і аб роўнасці ў правах усіх канфесій адносілася і да праваслаўных.

Канстанцін Астрожскі быў адным з ініцыятараў і ўдзельнікаў з'езду праваслаўных (дызуніятаў) і пратэстантаў у траўні 1599 г. у Вільні. Ён 18 траўня падпісаў прыняты там акт канфедэрацыі і быў прызначаны адным з "правізараў", якім была даручана абарона "цэркваў і збораў (дамоў малітвы – А.Г.) нашых хрысціянскіх" ён таксама стаў сувязным у перамовах паміж рэфарматамі і канстанцінопальскім патрыярхатам. Канстанцін Астрожскі заклікаў праваслаўную шляхту запісваць у гродскія і сеймікавыя акты ўсе крыўды, зробленыя католікамі праваслаўным. Амаль у кожным выступе К. Астрожскі паўтараў, што Берасцейская унія была незаконнай. бо у яе падрыхтоўцы не ўдзельнічалі вернікі – шляхта і просты люд.

Пры нагодзе Канстанцін Астрожскі выступіў на сойме ў Кракаве ў 1603 г. супраць уніяцкіх епіскапаў. Пад яго ўплывам палажэнне аб роўнасці правоў Праваслаўнай царквы з Каталіцкім касцёлам было ўключана ў праграму апазіцыі ў Кракаўскім ваяводстве. Канстанцін Астрожскі дамогся ад караля Жыгімонта III у 1605 г. прызначэння вядомага праваслаўнага дзеяча Елісея Плецянецкага архімандрытам Кіева-Пячэрскага манастыра.

Тады ж К. Астрожскі даручыў апекавацца Віленскім праваслаўным брацтвам свайму унуку Янушу Радзівілу, кальвіністу, мужу праваслаўнай княгіні слуцкай Соф'і Алелькавіч. Ахвяраваў ён Віленскаму брацтву маёнтак Славенска, прыбыткі з якога мусілі быць выкарыстаныя для пабудовы мураванай царквы ў Вільні. Нягледзячы на яго актыўную антыўніяцкую палітыку Каталіцкі касцёл неаднаразова спрабаваў навярнуць яго ў каталіцтва. Папа Клімент УIII звярнуўся да К. Астрожскага 15 студзеня 1605 г. з лістом, пераконваючы кіеўскага ваяводу перайсці ў каталіцтва, але, як і да гэтага часу, марна.

У апошні перыяд яго жыцця абарона праваслаўя не перашкаджала К. Астрожскаму займацца і палітычнымі справамі. Ён быў прыхільнікам стварэння антытурэцкай кааліцыі дзяржаў з мэтай вызвалення ад турэцкай няволі праваслаўных народаў. Паранейшаму Кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі бараніў украінскія рубяжы. У 1601 і 1602 гг. яго войска стаяла на граніцы з Расійскай дзяржавай. Раней ён абяцаў вайсковую дапамогу гаспадару Валахіі у яго барацьбе супраць Турцыі. Апошнія гады свайго жыцця Канстанцін Астрожскі хварэў. Памёр ён у сваім горадзе Астрогу 21 сакавіка 1608 г. па звестках архіва Бібліятэкі Чартарыскіх у Кракаве дата яго смерці – ноч з 28 на 29 лютага 1608 г. пахаваны ён быў у замкавай царкве ў Астрогу.

Негледзячы на аддانасць Канстанціна Канстанціна віча Астрожскага праваслаўю, сям'я яго (дарэчы, як нямала іншых магнацкіх і шляхецкіх сем'яў) была прадстаўлена рознымі канфесіямі. З трох яго сыноў двое былі каталікамі, як і жонка самога К. Астрожскага. Толькі малодшы сын Аляксандр застаўся праваслаўным. Абедзвюх дачок князь Канстанцін Канстанцінаваіч выдаў замуж за каньвіністаў (рэфарматаў). Лізавета памерла ў 1599 г. была жонкай кашталяна віленскага Яна Кішкі з 1575 г.), а потым у 1593 г.- ваяводы віленскага Крыштафа Мікалая Радзівіла. Другая дачка – Кацярына (1560-1579 г) была ў 1578 г. выдадзена замуж за таго ж Крыштафа Мікалая Радзівіла, тады гетмана польнага літоўскага. Аднак такія сямейныя дачыненні не перашкаджалі антыўніяцкай палітыцы. К. Астрожскага. З другога боку, яны дапагалі яму ўтрымліваць добрыя кантакты з прадстаўнікамі пратэстанцкай апазіцыі.

Імя Канстанціна Канстанцінавіча Астарожскага несумненна, уваходзіць у шэраг славутых імёнаў у гісторыі Беларусі і Украіны.

# Кастусь Каліноўскі

**Крыжаванка Лявона Целеша, г. Дзяржынск**



**Па гарызанталі:**

1. Імя старэйшага брата К. Каліноўскага
4."... з-пад шыбеніцы" Ідэйна-палітычны запавет, напісаны К. Каліноўскім у турме.
9. Імя беларускага пісьменніка і журналіста, сучасніка К. Каліноўскага, Плуга (Пяткевіча). якому ў 2008 годзе споўнілася б 185 год.
11. Часовы рэвалюцыйны... Вышэйшы орган, які кіраваў паўстаннем у 1863-64 гг.
12. Мураў'ёў - ... , мяснік. Ганебныя мянушкі душыцеля паўстання. царскага сатрапа.
15. Усходні рэгіён Расіі, куды былі сасланыя і дзе загінулі лепшыя сыны Беларусі ў часы задушэння паўстання, і ў гады сталінскага генацыду.
18.... – Марцінкевіч. Заснавальнік беларускай нацыянальнай драматургіі і тэатра. Падтрымаў паўстанне, сядзеў у Менскай турме. Сёлета – 200 год з дня яго нараджэння.
19."Да рабскай пакоры
нязвыклы.
Гукнуў усёй краіне ...:
"Даволі! Народ мы, не быдла
Паўстань за сябе, Беларусь!"
З верша гісторыка, паэта М. Ермаловіча "Кастусь Каліноўскі."
20. Польская пісьменніца, аўтар твораў "Хам", "Тадэвуш" і інш. у час паўстання была сувязной партызанскага атрада.
21. Чалавек, які распаўсюджвае веды, ідэі (пер). Да такога адносіцца К. Каліноўскі.
24. Гандлёвая плошча ў Вільні, дзе быў павешаны К. Каліноўскі.
26. Беларускі жывапісец, графік, этнограф. За ўдзел у паўстанні адбываў турэмнае зняволянне.
27. ... гаспадар з-пад Вільні. Найбольш распаўсюджаны псеўданім К. Каліноўскага.
31. Беларускі паэт-дэмакрат, фальклярыст рэвалюцыянер другой паловы XIX ст., на якога вялікі ўплыў мелі традыцыі паўстання, ідэі К. Каліноўскага.
33. Частка конскай вупражы.
34. Нешта ганебнае, цынічнае, звязанае з судом над удзельнікамі паўстання (перан).
35. Народны паэт Беларусі. Аўтар балады "Кастусь Каліноўскі".

**Па вертыкалі:**

2. Мучыцель, кат (разм.)
3. Імя беларускага пісьменніка, рэвалюцыянера Вярыгі-Дарэўскага, актыўнага ўдзельніка паўстання. Памёр у ссылцы.
5. Прыправа з кораня трапічнай расліны.
6. Святаянскія... Комплекс будынкаў былога Віленскага ўніверсітэта, дзе К. Каліноўскі хаваўся ад пераследвання царскіх уладаў.
7. "... пад сярпом тваім". Раман беларускага пісьменніка У. Караткевіча.дзе апісваюцца падзеі напярэдадні паўстання.
8. Паведамленне аб тым, што што-небудзь не адбудзецца, не ажыццявіцца.
10. Дробнапаместнае дваранства на Беларусі, са збяднелага роду якога паходзіў і бацька К. Каліноўскага – Сямён.
13. Адзін з псеўданімаў К. Каліноўскага
14. Прафесія, у якой вызначыўся К. Каліноўскі.
16. Збяднелы неплацежаздольны даўжнік.
17. Грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1863-64 гг., загадваў віленскай гарадской арганізацыяй. Быў сасланы на катаргу.
22. Старажытны беларускі горад, адзін з цэнтраў паўстання (стар. назва).
23. "Мужыцкая.." Першая беларуская газета дэмакратычнага кірунку, якую выдаваў К. Каліноўскі ў часы паўстання.
25. "Не наракай, ... , на сваю бяздолю, А прымі цяжкую кару – прадвечнага волю", - з верша К. Каліноўскага, напісаннага ім з турмы на волю сваёй нарачонай Марыі Ямант.
28. Пакаранне зняволяннем, якое атрымлівалі змагары за свабоду і незалежнасць Беларусі пры царызме, пры бальшавізме, пры Польшчы і атрымліваюць у наш час.
29. Кіраўнік палітычнай партыі, паўстання і інш.
30. Студ. арганізацыя Пецярбургскага ўніверсітэта, актыўным удзельнікам якой у часы вучобы быў К. Каліноўскі.
32. Народны паэт Беларусі, аўтар паэмы "Кастусь Каліноўскі".

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 03. 2008 г. у 10.00. Замова № 732.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1680 руб., 3 мес.- 5040 руб.
***Кошт у розніцу:*** ча дамоўленасці.